ЯНКА КУПАЛА

# Я калгасніца



Я—калгасніца
Маладая,
Жыву весела,
Ані дбаю.

Мае дзетачкі
Позна-рана
І накормлены,
І прыбраны.

Сваю Настачку—
Дзіця тое—
Нясу ў яслі я
Раніцою.

А Данілачка
Важным хлопцам
Рады бегае
На пляцоўцы.

А як выйду я—
Іхня маці—
Ды калгаснае
Жыта жаці,—

Густа сцелюцца
Ўслед снапочкі.
Пяю песенькі
Аж да ночкі.

Супакойна я
Ўжо за дзетак,
Сваіх родненькіх
Малалетак.

Я—калгасніца
Маладая,
Жыву весела,
Ані дбаю.



# ВЕРАБЕЙ

**І. С. ТУРГЕНЕЎ**

Я варочаўся з палявання і ішоў па садовай алеі. Сабака бег спераду мяне.

Раптам ён зменшыў свае шагі і пачаў красціся, нібы адчуўшы перад сабою дзіч.

Я глянуў уздоўж алеі—і ўбачыў маладога вераб'я, з жаўцізною каля дзюбкі і пухам на галаве. Ён упаў з гнязда—вецер моцна хістаў бярозы алеі—і сядзеў нерухома, бездапаможна растапырыўшы крыльцы, якія яшчэ ледзь прарасталі.

Мой сабака памалу набліжаўся да яго, як раптам сарваўшыся з блізкага дрэва, стары чорнагруды верабей каменем упаў перад самай яго мордай—і ўвесь ускудлачаны, страшны, з адчайным і жаласным піскам скокнуў разы два да зубастай разяўленай ляпы. Ён кінуўся ратаваць, ён засланіў сабою сваё дзіцянё... Усё яго маленькае цела дрыжэла ад жаху, галасок адзічэў і ахрып,—ён заміраў, ён ахвяроўваў сваім жыццём.

Якім велізарным зверам павінен быў яму здавацца сабака. І ўсё-такі ён не мог уседзець на сваёй высокай бяспечнай галінцы... Сіла, мацнейшая за яго волю, скінула яго адтуль.

Мой Трэзор спыніўся, падаўся назад... Відаць, і ён прызнаў гэтую сілу. Я хутчэй паклікаў здзіўленага сабаку і пайшоў далей расчулены.





# РАК ВУСАЧ



Казка **ЯКУБА КОЛАСА**[1])
Рысункі **К. ГЕДДА**

Ну, пачнём мы казку так:
Жыў ды быў на свеце рак
З доўгімі вусішчамі,
З чорнымі вачышчамі,
Вострымі, лупатымі,
З лапамі разгатымі,
Шырачэзны ў шыі,
Клешні—во якія!
А як вусам павядзе,
Страшна зробіцца ў вадзе!
Рыбкі хвосцікам мяльнуць
Ды галоўкамі кіўнуць
І барджэй наўцекача
Ад рачышчы-вусача!
А ён шышчай трэп-трэп!
Жабка ў бераг і—ні шэп.
Страшны рак быў, грозны рак,
Як ушчэміць—будзе знак.
І баяліся яго,
Як няведама каго.
Пад карэннямі ракіты
Жыў наш рак, вусач сярдзіты.
І ёсць загадка такая:
Ні смяецца, ні гукае,
Жыве ў бухце пад ракітай,
На ім світа,
Ды не світа,
Хоць кравец, ды не Мікіта.

* * *

Ой, бяда, бяда!
Мутненька вада—
Пахмурнела рэчка.
Ой, пакрыўдзіўся рак,
Смутны стаў небарак,
Ціхі, як авечка.
Не варушыць вусам,
Лёг на дно ён брусам
І ляжыць дзён тры.
Растапырыў клешні
І не есць яешні,
Жабінай ікры,
Не вылазіць з норкі.
„Лёс мой“, кажа, „горкі—
Цяжка быць раком!“
Вось падплыў акуньчык.
— Вылезь, рак-гарунчык,
Не глядзі ваўком,
Не смуткуй так дужа
Развясельса, дружа,
Гэта-ж не гульня!
Зойдзешся ад голаду
Прападзеш ты змоладу
На парозе дня.
А як свеціць сонейка,
Грэе рэчцы лонейка,
Песціць сітнякі,
Грэе так гарачанька!..

---

[1]) Друкуецца ў скарочаным выглядзе.

Развяселься, рачанька,
І нас ты не кінь!
Ты сядзіш нахмураны,
Злосны і абураны
І не бачыш дня.
Апусціў рак вочы—
Нават і не хоча
Слухаць акуня.
Падплывае плотка:
— Рача, маё злотка!
Адпусціся, мілы!
Чым цябе ўлагодзіць?
Што табе абходзіць,
Поўніць злосцю жылы?
І нам, рыбкам, трудна,
Жыць часамі нудна,
Проста ох-ох-ох!
Гоняць нас усюды,
Ловяць нас на вуды,
Надзяць на гарох.
Ловяць невадамі,
Душаць венцярамі,
Брэднем, тапчаком.
Ох, жыццё не свята,
Горанька багата—
Лепш быць чарвяком!
Адпусціся-ж, рача,—
Нават рэчка плача
Над сынком сваім...

Рак маўчыць зацята,
Вусам не закратаў...
Што рабіці з ім,
Развяселіць чым?

* * *

Ах, бадай-жа ён скіс,
Гэты рак вусаты!
Проста плягаю звіс
Сум яго зацяты!
Нарабіў грамадзе
Клопату па вушы.
Вухам, гад, не вядзе,
Хоць-бы клешняй рушыў.

І няўжо-ж, грамада,
Не дасі ты рады?
Проста смех і бяда,
З гэтакае звады!
І пайшла на задор
Тая паталоча:
Кінеш, рак, сваю хвор,
Грамада так хоча,
Моц яе не мала,
Дай ёй разгарэцца!
Пагалоска пайшла
Аб раку па рэчцы.

Слухаў бусел, маўчаў,
Думаў, а нарэшце
Чаплі штось прабурчаў,



Нібы зяць да цешчы.
Чапля крыллем лоп-лоп!
І ляціць да рыбы.
Мусіць бусел на троп
Тут навёў без хібы.
І ў разгар тых прамоў
Чапля прэ да сома—
Без чаргі прымі, моў:
Дэлегат птушкома!

Даюць чаплі слова.
Вось яе прамова:
„Таварышы, рэчка наша агульная
справа,
І пайшла аб ёй нядобрая слава,
Што рыба, птушкі і травы
Не могуць справіцца з ракам,
З упартым нейкім дзіваком,—
Выпадак пэўна-ж нецікавы!
Папробуем заклікаць жыта,
Прывяду яго сама і—квіта.
Калі ён і яго не паслухае,
Тады палкі занюхае“.

Рыбка, збіўшыся пад мосцікам,
Папляскала чаплі хвосцікам.
— Дзякуй табе, чапленька!
Патурбуйся, родная!
Памірае рачанька,
Галава нягодная!
Справа то грамадская,
Почасць будзе хвацкая:
Як справу тую выпаўніш,
Запішам мы цябе
На дошчачку чырвоную,
На вербачку зялёную
Мы вывесім яе.

Рак панура сядзіць
І на свет не глядзіць.
Сцеражыся-ж ты, рак:
Унь ідзе, брат, жыта!
Рыба валіць пад гак,
Сом храпе сярдзіта.
Плёх усцяж на вадзе,
Няма месца нідзе.

Каліва ржаное,
Спелае, буйное
Стала над вадою
І сказала:
„Рача!
Скрыўджан ты нейначай
Нейкаю бядою.

Але ты паслухай, дружа!
Ой, па свеце ходзіць сцюжа!
Ой, халодзіць яна дужа!

Ветрам дыша, снегам сцеле,
Чуць душа трывае ў целе.

Надыходзіць старасць-восень,
З воч знікае неба просінь,
Віснуць ніці з хмарак-кросен.
Ой, выносяць мяне ў поле,
Рассыпаюць ды па ролі.
А там сівер чмыхне злосна!
Ой, як страшна стане, млосна!

Ткуць марозы кужаль белы,
Засцілаюць ім свет цэлы,
Убіраюць дол змярцвелы.
Мае шоўкі, мае руні
Скрышыць злы мароз-дзядуня.

Як надыйдзе-ж тое лета,
Жоўтым шоўкам я адзета,
І тут песня мая спета!
Як мост, злягу я на просце.
Вязуць з поля, ды не ў госці,
Пабʻюць цэпам мае косці,
Мае зярняткі пасушаць,
Камянямі іх падушаць.
І ў той дзежачцы дубовай,
З жоўтай клёпачкай альховай
Расчыняюць хлябок новы,
Расчыняюць на вадзіцы
З мае беленькай мучыцы.

Мяне ў дзежцы месяць-месяц,
Пераверняць разоў дзесяць
Ды настольнічкам завесяць.
А печ паляць дачырвона.
Гляджу ў страсе я, здзіўлёна.

Ой, ды чым я вінавата?
Шугне ў печ мяне лапата,
Дзе агнём усё пранята.
Я ў агні тым абамлею,
Пажаўцею, учарнею.

І вось толькі як вадзіцай,
Тэй халодненькай жывіцай,
Мяне ўмые маладзіца,
Тады толькі свет пабачу...
Каму-ж горай з нас, мой рача?"

І сказаў тут рак-вусач:
„Грамада! ты мне прабач!
Мая журба у прах пабіта—
Зваявала мяне жыта,
І ад гэтае пары
Прападай, мой сум стары!
Прападзі наша бяда!
Няхай жыве грамада!"

---

Рыбка з радасці такой
Пайшла ў скокі талакой,
А за ёю пташкі,
Навapыўшы кашкі
З спеленькіх пурышак
І з малінак-пышак;
А за птаствам—мошкі,
Падабраўшы крошкі,
За мошкамі—дрэвы,
Распачаўшы спевы,
За дрэвамі—травы
Ладзяць баль цікавы.
І прышлі музыкі
Чарадой вялікай.

Граў на скрыпачцы камар,
На дудачцы чмель-дудар,
Хрушч узяў басэтлю,
Задае там пытлю.
Шэршань барабаніць,
Камарыка ганіць:
„Пайшоў вон! пайшоў вон!
Ты не гэты бярэш тон!"
Муха на цымбалах
Струны калыхала,
Авадзень на леры
Выцінаў без меры,
А чырвоны конік
Жарыць у гармонік.
Сеў свярчок
На сучок
Ды тне на кларнэце,
А жучок,
Чарнячок
Пачаў песні пеці.
І так хораша спяваў,
Што зусім прычараваў
Тую бабку-шэльму,
Што прыгожа вельмі.
Выскачыў журавель,
Як Піліп з канапель,
Напалохаў жабу,
Лупатую бабу.
Пайшлі ў скокі сотні пар,
А за імі і камар
Бусла спрытна падхапіў,
Буслу ногу зачапіў,
На мазоль наступіў.
Драчык песняй скончыў баль
І дашчэнту знішчыў жаль.






# Ілька

Апавяданне А. МІРОНАВА
Рысункі Г. ЗМУДЗІНСКАГА

Доўгі час жыў шаман[1]) Мітры Лаптандэр у ненецкім пасёлку. Пасёлак размясціўся ў самым цэнтры поўвострава Ямал. У ім жылі вандроўнікі ненцы з сваімі статкамі аленяў.

Разам з аленямі ненцы вандравалі па тундры. Яны спыняліся там, дзе было для аленяў больш корму—моху-ягелю. Пасёлак меў восем хатак, накрытых аленевымі скурамі. Гэтыя хаткі называюцца чумамі. Жыхары сямі хатак мелі аленяў і пасвілі іх. У восьмай жыў Лаптандэр. І хоць у яго не было сваіх аленяў, але жыў ён лепш за ўсіх.

Вялікую ўладу меў шаман над жыхарамі пасёлка. Людзі баяліся яго, баяліся злых духаў, якімі распараджаўся шаман. Людзі ішлі да яго са сваімі радасцямі і няшчасцямі, з хваробамі і няўдачамі. Шаман браў багатыя падарункі ад ненцаў і палохаў людзей страшнымі злымі духамі. На сотні кілометраў вакол пасёлка расцілалася пустынная тундра, з раскіданымі сям-там чумамі такіх-жа аленяводаў. Хто мог перашкодзіць Лаптандэру ў вялікай тундры? Тут ніколі не чулі нават слова калгас.

... Так і жыў-бы шмат гадоў Мітры Лаптандэр, трымаючы ў пакорлівасці ўсіх ненцаў, калі-б не прыехала Ілька.

Спачатку Лаптандэр не заўважыў яе. Дачуўся толькі ад людзей, што прыехала да старога пастуха Ванукана дачка Ілька. Шаман ведаў яе маленькай чарнавокай дзяўчынкай. Памятаў ён, як шмат гадоў назад Ільку забрала да сябе руская жанчына, жонка начальніка радыёстанцыі Марэ-Сале. Тады Ванукан ездзіў у факторыю[1]), на бераг мора, прадаваць пясцовыя шкуры і ўзяў з сабою Ільку. Дзяўчынка спадабалася там рускай жанчыне. Бацька ахвотна аддаў яе: лепш, калі ў чуме меней галодных ратоў. Хутка пра дзяўчынку забыліся ўсе людзі пасёлка.

І раптам Ілька нечакана прыехала ў бацькаўскі чум.

Першы раз Мітры Лаптандэр сустрэўся з ёю ў чуме маладога ненца Выучэйскага, каля пасцелі яго хворай жонкі Марыны. Даведаўшыся пра хворую, шаман адзеў ма-

[1]) Шаман—калдун, знахар.

[1]) Факторыя—гандлёвы пункт.

ліцу, убраную ў каляровыя істужкі і бразготкі. Узяў вялікі бубен і пайшоў да Выучэйскага выганяць з хворай злога духа. Ён увайшоў у чум, замармытаў каля дзвярэй страшныя заклінанні. У чуме было чыста прыбрана, і дым ад кастра не выядаў вачэй. Каля сцяны сядзеў Выучэйскі, трывожна паглядаючы на жонку, якая ляжала на пасцелі. Хворую аглядала незнаёмая дзяўчына. Лаптандэр змоўк.

Марына ціха стагнала. Пачырванелы твар яе надта распух. „Памрэ“,—падумаў Лаптандэр і паглядзеў на дзяўчыну. Сярэдняга росту, прысадзістая і стройная, яна была адзета, як рускія жанчыны: кароткая чорная спадніца і мяккая вязаная кофтачка. На нагах яе Лаптандэр убачыў высокія рускія боты. Чорныя як смоль валасы дзяўчыны былі коратка астрыжаны.

— Хто гэта?—шэптам спытаў Лаптандэр, прысаджваючыся побач з Выучэйскім.

— Ілька, — адказаў той. — Вануканава дачка.

Дзяўчына асцярожна прыўзняла хворую і павярнула яе тварам да сцяны. Накруціўшы на палачку ваты, яна абмакнула яе ў цёмную бутэльку і пачала хутка мазаць бок хворай. У чуме востра запахла ёдам.

Скончыўшы з гэтым, Ілька намачыла ў вадзе белую анучку і палажыла кампрэс на галаву Марыны. Потым накрыла хворую цёплай коўдрай і сказала Выучэйскаму:

— Будзеш даваць жонцы піць з гэтай шклянкі па адной лыжцы раніцай і вечарам. А гэта хто?—паказала яна на Мітрыя.

— Лаптандэр, — ціха адказаў Выучэйскі.

— Шаман?—пазнала Ілька.—Ідзі адгэтуль, тут табе няма чаго рабіць!

Лаптандэр усхапіўся, нібы ўжалены. Як адважылася гэта дзяўчынка так гаварыць з ім! Ён ступіў пару шагоў да Ількі, намерваючыся жорстка пакараць яе за такую абразу, але раптам спыніўся. Проста на яго глядзелі чорныя вочы, і столькі смеласці было ў іх, што Мітры збянтэжыўся і адступіў.

— Не шумі тут,—строга сказала Ілька.— Выбірайся прэч!

Шаман моўчкі вышаў, сціскаючы кулакі.

* * *

Мітры Лаптандэр страціў свой звычайны спакой. Нават у сне ён часта бачыў смелыя чорныя Ількіны вочы.

Марына папраўлілася. Узрадаваны Выучэйскі прынёс Ільцы тры снежна-белыя шкуры пясца. Але дзяўчына не ўзяла.

— Не трэба,—усміхаючыся, адказала яна.

Выучэйскі здзівіўся: чаму Ілька не бярэ пясцоў? Шаман-жа браў плату нават тады, калі хворыя паміралі...

... Лаптандэр цяпер часта сустракаўся з Ількай у хатах хворых ненцаў. Дзяўчына смела гнала шамана і сама аглядала хворых.

Пра дзівоснае Ількіна лячэнне хутка даведаліся ўсе ненцы стойбішча. Да яе прыязджалі і з другіх пасёлкаў. Нікому не адмаўляла Ілька ў дапамозе і ў лякарствах.

Надта любілі Ільку дзеці. Яна збірала іх і расказвала пра вялікія гарады, пра тое, як яна жыла там і вучылася. Ілька раздала рэбятам карандашы і паперу. Яна ўзялася вучыць іх пісаць і чытаць.

Ахвотна слухалі Ільку і дарослыя ненцы. Вечарамі да Ванукана збіраліся суседзі слухаць апавяданні кароткавалосай дзяўчыны. Ілька расказвала аб аленяводных калгасах і Вяліказемельскай тундры, аб прамысловых арцелях. Маладыя ненцы, якія ездзілі на бераг мора, у факторыю, самі бачылі там арцель. Яны ўважліва слухалі Ільку.

* * *

Моцна спала Ілька, калі яе разбудзіў бацька. Ён трос дзяўчыну за плечы і мармытаў нешта незразумелае.

— Што табе трэба?—устала Ілька.



— Лаптандэр памірае,—сказаў Ванукан.— Схадзі паглядзі.

Ілька хутка адзелася, схапіла чамаданчык з лякарствамі і выбегла з чума. Ноч была светлая: высока ў чорным небе блішчэў месяц. Над стойбішчам панавала незвычайная цішыня. Нават сабакі не вылі, моцна заснуўшы ў снягу.

Ілька хутка дайшла да Лаптандэравага чума. Пасля яркага месячнага святла ў чуме было цёмна. Паступова вочы дзяўчыны асвойталіся з цмяным святлом маленькай капцюлькі. Каля сцяны чума сядзелі тры старыя мужчыны. Яны здаваліся высечанымі з каменя, і толькі цмяны бляск вачэй сведчыў, што гэта жывыя людзі. Каля другой сцяны, на шкурах, ляжаў Лаптандэр. Нагнуўшыся, Ілька здзівілася, як страшэнна ён схуднеў. І без таго высокі, ён быў падобны цяпер на плоскую і вельмі доўгую дошку. Шаман хрыпла і цяжка дыхаў. Ён гаварыў з гарачкі, сціскаючы кулакі.

Ілька хутка агледзела Лаптандэра. У грудзях яго бесперапынна хрыпела, нібы туды паставілі нейкую машыну. „Запаленне лёгкіх“,—зразумела Ілька.—„Трэба паставіць банкі і палажыць сагравальны кампрэс“.

Яна ўзялася за лячэнне. Мужчыны не перашкаджалі, але падазрона пазіралі на яе.

— Я яго вылечу,—моцна сказала дзяўчына. А сама сабе падумала: „І гэтым зусім знішчу ў вас страх перад шаманам“.

Старыя маўчалі, нібы не чулі яе.

* * *

З таго часу прайшло шмат дзён. Шаман заметна папраўляўся, хоць прытвараўся слабым, і зусім не ўставаў з пасцелі. Ён дазваляў Ільцы рабіць з сабою, што яна



Пазней сюды перасталі прыходзіць нават старыя. Яны крыўдзіліся на Лаптандэра за тое, што ён маўчаў. Ілька і арцельшчыкі бачылі, што ненцы зусім перасталі паважаць шамана: паступова да калгаснага стада далучылі сваіх аленяў усе пасялкоўцы.

... Аднойчы, ранёнька Ілька пабегла даведацца Лаптандэра. У чуме яго не было. Каля чума дзяўчына ўбачыла след, пакінуты кундамі—шырокімі лыжамі шамана.

лічыла патрэбным. Моўчкі піў лякарства. Ілька здзіўлялася, чаму ён так доўга ляжыць.

У чум да Лаптандэра часта заходзілі ненцы, але ён не гаварыў з імі. Паглядзеўшы на шамана, людзі выходзілі прэч, нечага ўсміхаючыся.

Ілька зразумела: шаман Мітры Лаптандэр ужо даўно паправіўся пасля хваробы. Ён ляжаў у чуме, набіраючыся сілы, дзеля таго, каб пасля назаўсёды пайсці з пасёлка, дзе кароткавалосая дзяўчына з смелымі вачыма нашчэнт разбіла яго магутнасць.

---

*П. Броўка*

## ЛАГЕРНАЯ ПЕСЕНЬКА

Нас кліча вясёлае
Поле і гай,
Бывай-жа да восені,
Школа, бывай!..

А заўтра наш поезд
Пакоціць у даль,
Дзе сонца іграе,
Дзе пеніць вада—

Дзе вецер над полем
Шуміць і шуміць,
Там песенька наша
У даль паляціць.

То рэчкай памчыцца,
То выйдзе на бор,
То звонка закружыць
Высока ля зор.

І цэлае лета
Ад гэтай пары
Звінець будуць смехам
У нас лагеры.

Мы будзем купацца,
Гуляць, загараць
І дружна вясёлыя
Песьні спяваць.

# Слон і Моська

*І. А. Крылоў*

Па вуліцы слана вадзілі,
Як быццам на паказ—
Вядома, што сланы навінка ў нас,—
Дык за сланом сотні зявак хадзілі.
Адкуль ні ўзяўся тут, насустрач Моська ім.
Убачыўшы слана, давай к яму ірвацца,
І скогліць, і брахаць, і агрызацца.
Ну, так і лезе ў бойку з ім.
‚Суседзе, як табе не сорам!—
Гаворыць Шаўка тут з дакорам.—
Што за карысць, скажы, з брахні тваё?
Слон на цябе і ўвагі не звяртае.
— Эх, эх!—наш Моська заяўляе:—
Вось гэта-ж мне і духу надае,
Што я зусім без бою
Магу вядомым стаць героем!
І ўсе сабакі скажуць мне затое:
Ай, Моська! Мабыць, дужы ён,
Што брэша нават на такіх, як слон.

*Пераклад А. Я.*



# ВАЖАК

Апавяданне А. ПЯТРОВА Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА

II *)

Так пачалася гульня, якая цягнулася беcперапынна пяць дзён. Архар кружыў па горах і то падпускаў паляўнічых да сябе, то ўцякаў ад іх. Ён добра вывучыў сваіх ворагаў. Цяпер ён менш баяўся шэкары, бо ведаў, што праваднік толькі асочвае яго белым, а сам не страляе. Найбольш небяспечным быў малодшы паляўнічы—юнак з блакітнымі вачыма: ён добра падкрадваўся і метка страляў.

Архар хістаўся ад стомленасці. Яго шаўкавістая воўна збілася ў касмыкі. Плямы запечанай крыві (ён быў двойчы паранен) цямнелі на баку і спіне. Як толькі надыходзіла ноч, ён бег да стада, а раніцай варочаўся і падстаўляў грудзі пад кулі паляўнічых. Ён усё далей і далей заводзіў людзей на горы, дзе блішчэлі ледавікі. Насільшчыкі пяты раз ужо складвалі багаж і пераносілі яго на плячах цераз правалы і вірлівыя рэчкі.

— Такога выдатнага архара няма нават у лонданскім музеі,—гаварылі пра яго паляўнічыя, седзячы ўвечары каля кастра.— Трэба канешне забіць яго.

— Ён хітруе, ён ратуе стада,—мармытаў шэкары, якому надакучыла ганяцца за архарам.

— Стада астанецца пра запас,—адказвалі паляўнічыя.

Надышоў канец пятага дня. Архар стаяў на абломку скалы над самым правалам. Спрытным манеўрам шэкары загнаў яго ў тупік, з якога магла выслізнуць толькі птушка. Архар зрабіў памылку, за якую павінен быў зараз заплаціць жыццём. І як гэта здарылася, што ён, спрактыкаваны важак, трапіў у гэтую пастку? Стомленасць! Так, страшэнная стомленасць—гэта яна прытупіла яго ўвагу. Архар пяць дзён правёў на валаску ад смерці, без сну і яды, згараючы ад трывогі. Ён больш не мог змагацца.

Паляўнічыя падбягалі з трох бакоў. Яны не лічылі патрэбным хавацца. Старэйшы паляўнічы раскрыў кадак *), каб сфатаграфаваць архара жывым.

Важак стаяў, высока падняўшы галаву. Яго вочы мігам перабягалі з месца на месца ў пошуках выхаду. Ён паглядзеў на правал. Не, правала не пераскочыш! А што калі...



*Архар кружыў па горах і то падпускаў паляўнічых да сябе, то ўцякаў ад іх*

*) Пачатак глядзі ў № 4.

*) Кадак—невялічкі фатаграфічны апарат.

З процілеглага боку, ніжэй берагу, тырчэў камень. На гэтым баку таксама віднеліся выступы... адзін... ніжэй—другі. Яны цямнелі ў глыбіні правала, як ластаўчыны гнёзды. Пад імі сцены здаваліся гладкімі. Ніводнай шурпатасці, на якой магла-б затрымацца нага! Ці-ж так яно? Вунь там, правей... нібы калдобінка ў сцяне. Ніжэй—яшчэ і яшчэ...

Праваднік выскачыў з-за каменя. Чалавек і жывёла сустрэліся вачыма. Архар сабраў апошнія сілы і кінуўся... у правал! Яго цела мільганула над правалам і на момант—не больш, чым на момант!—затрымалася на выступе процілеглага боку. Раптоўны паварот на месцы,—і новы скачок—на другі бок правала, метраў на пяць ніжэй. Архаравы ногі з дакладнасцю механізма апусціліся на камень велічынёю з далонь. Раз-два! Зноў паварот—і доўгі скачок да процілеглай сцяны, наўскасяк уніз. Выразны стук капытоў. Паварот... скачок на глыбіню васьмі метраў... Зноў стук капытоў, заглушаны шумам сарваных каменняў... Круты паварот. Скачок... не, палёт некуды ў цяні... Яшчэ і яшчэ выкручастыя скачкі, надзвычайна смелыя, дакладныя, як размахі маятніка; нарэшце, апошні просты скачок—галавою ўніз, на каменні каля патока. Архаравы рогі прыціснуліся як стальныя спрунжыны; ён высока ўзляцеў угару і, перакуліўшыся ў паветры, усхапіўся на ногі. Праз секунду архар ужо імчаўся па дне правала, а з высокай гары глядзелі на яго здзіўленыя паляўнічыя...



*Архар сабраў апошнія сілы і кінуўся... у правал!*

---

Важак з'явіўся зноў. Ён узбег на вяршыну гары і ўбачыў сваіх ворагаў. Яны варочаліся на месца стаянкі, змораныя і ўсхваляваныя ад няўдачы.

— Вось ён, наш мучыцель! — усклікнуў шэкары.

Паляўнічыя спыніліся і пачалі ўглядацца на архара. Ён стаяў высока на скале, каля самых ледавікоў.

— Ты не ўцячэш ад нас! Рана ці позна мы заб'ем цябе!—закрычаў юнак з блакітнымі вачыма.

Настала ноч. З поўдня насунуліся навальнічныя хмары. Лінуў дождж. Маланкі паласавалі неба, а раскаты грому патрасалі горы. Са схілаў памчаліся бурныя патокі вады; яны зносілі па дарозе лясы і варочалі каменныя глыбы. У гарах загрымелі абвалы; як саломінкі закружыліся дрэвы, якія разбіваліся ўшчэнт аб каменні. Страшэнная лавіна рухнула ў Алакнанду. Шалёная рэчка прарвала гаць і заліла даліны. У каламутнай вадзе закалыхаліся стрэхі хат, перакуленыя вазы, трупы хатніх жывёл і людзей.

Дождж ліў два дні, а ўраган бушаваў яшчэ суткі. Снегавыя шапкі гор дыміліся і лугі пакрыліся тоўстым пластом снегу.



*Маланкі паласавалі неба, а раскаты грому патрасалі горы...*

Узышло сонца. Архар стаяў каля самага ледавіка і глядзеў на паляўнічых. Яны, спяшаючыся, сыходзілі з гары. Пры іх не было багажу: замест яго насільшчыкі неслі на плячах цела юнака-паляўнічага, загінуўшага пад каменным абвалам. Людзі не раскладвалі больш кастроў і без астаноўкі паўзлі ўсё ніжэй і ніжэй.

Архар прывёў стада на старое пасьбішча. Ён зноў заняў свой наглядальны пост на выступе скалы. Важак паглядаў на караваны якаў і стады хатняй жывёлы на горных лугах. Яго шустрыя вочы часта спыняліся на берагах Алакнанды. Але паляўнічыя больш не паказваліся.

# СТРАШНЫ ЗВЕР

Аднаго разу ў Гамбургскім заалагічным садзе (Германія) у памяшканне, дзе знаходзіліся малпы, трэба было пасяліць нейкага звера. Пасялілі яго ў сваю ўласную клетку, і да малпаў ён ніякага дачынення не меў. Але як толькі прывялі яго ў гэтае памяшканне, малпы так перапалохаліся, паднялі такі гвалт, што трэба было завешваць клеткі малпаў, каб яны не маглі бачыць гэтага звера. Адзін шымпанзе з перапуду закапаўся мордай у салому ды так і сядзеў, пакуль усё супакоілася.

Магчыма, што знайшлося-б нямала людзей, якія перапалохаліся-б гэтага страшнага звера не менш, як той шымпанзе. Ды і не дзіва—гэткага недарэчнага звера і выдумаць цяжка: галава—нібы дудка нейкая; ад галавы да хваста ідуць шэрыя грывы—зверху, збоку і нават ад пярэдніх ног, а між іх застаюцца чорныя палосы з кароткай шэрсцю. Пальцы на пярэдніх нагах загнуты ў сярэдзіну, і ён ступае нібы на кулаках, а заднія ногі падобны на мядзведжыя.

Самая дзіўная асаблівасць—гэта хвост. Можна было-б сказаць, што не хвост прымацаваны да жывёлы, а жывёла да хваста. Даўжыня звера метры са два, і амаль палавіна даўжыні прыпадае на хвост, высокі, пышны.

Жыве гэты звер толькі ў Паўднёвай Амерыцы. Ён там бадзяецца па стэпах ды хмызняках, спіць, дзе яго застане ноч. Ніякага логава або гнязда не мае, ходзіць заўсёды адзін; толькі маці ходзіць з дзіцем, пакуль яно не вырасце; праўдзівей сказаць, не ходзіць з ім, а возіць на спіне.



Жывіцца звер выключна мурашкамі, таму і завецца **мураўедам.** Дзеля гэтага ён мае незвычайны язык-вяровачку, даўжынёю з поўметра. Выпусціць свой язык на мурашнік, пачакае, пакуль аблепяць яго мурашкі, а потым і ўцягне ў рот. Ды ён больш нічога не мог-бы есці, хоць нават і хацеў-бы, бо зусім не мае зубоў, нават і следу іх няма.

Калі чалавек сустрэне гэтага „страшнага“ звера на полі, то можа гнаць яго перад сабою, як у нас гоняць, скажам, гусей альбо качак. Каб мураўед пабег галопам, то чалавек дагнаў-бы яго шагам. „Паляваць“ на яго досыць лёгка: падышоў ды стукнуў кіем па галаве, і больш нічога. Але часам ён абараняецца: сядзе на задніх лапах і стараецца пярэднімі ўхапіцца за кій.

Такім чынам, мы бачым, што гэтага „страшнага“ звера не баяцца трэба, а можна нават любіць і шкадаваць, бо ніякай шкоды чалавеку ад яго няма, нават карысць ёсць ад знішчэння вялікіх трапічных мурашак—тэрмітаў.

Там-жа, у Паўднёвай Амерыцы, ёсць яшчэ другі мураўед, які жыве ў лясах. Хвост у яго голы, і гэтым хвастом ды яшчэ заднімі лапамі ён чапляецца за дрэвы. Ён можа нават прывыкнуць да чалавека. Адзін такі мураўед так пасябраваў з сваім гаспадаром, што з ласкаю соваў свой язык-чарвяк гаспадару ў вочы, у нос, і ў вушы...

Нарэшце ёсць яшчэ (усё там-жа) мураўеды-карлікі, велічынёю з нашу вавёрку. Яны жывуць на дрэвах, у самых густых лясах. Увесь дзень яны спяць, а ўночы выходзяць на паляванне.

М.



## НАТУРАЛІСТЫ

Два натуралісты пайшлі гуляць. Яны ўбачылі дрэва.

— Гэта вярба,—сказаў першы.

— Не, вольха,—заспрачаўся другі.

Натуралісты так доўга спрачаліся, што нават пасварыліся.

Знайдзіце іх на гэтым рысунку.



## ЖАРТ

Старая бабулька на рынак хадзіла.
На рынку бабулька качку купіла.
Разам з бабулькай хадзіў яе дзед.
Купіў ён сабе гусака на абед.
Купілі яны, і дахаты пайшлі.
Раптам і качка і гусь уцяклі...
Цяпер вам, рэбяткі, задам я задачку:
Знайдзіце гуся і бабульчыну качку?

## ЗАГАДКІ

1. У трох шофераў быў брат Андрэй, а ў Андрэя братоў не было. Як гэта магло здарыцца?

2. З крыллямі—не птушка, з сярпом—не жняя, з калёсамі—не воз.

3. Не агонь, а пячэцца.

4. Пад вадой плавае, а не рыба, купаецца, а не чалавек.

5. Сам на нагах, а хаджу ў ботах, сам у ботах, а хаджу басанож.

6. Каля нашай бабусі сядзіць дзед у кажусе, без вады твар умывае. Ну хто адгадае?

7. Дарога ёсць—ехаць нельга, зямля ёсць—араць нельга, лугі ёсць—касіць нельга, у рэках і морах вады няма.

8. Без агню гарыць, без крылляў ляціць, без ног бяжыць.

9. Не сучок, не лісток, не краска, а на дрэве расце.

10. Семдзесят вопратак ды ўсе не зашпілены.

11. У каго на нагах дзве шкуры?

12. Калі будуюць новы дом, то ў што б'юць першы цвік?

13. Што стаіць паміж акном і дзвярыма?

14. Колькі гарошынак увойдзе ў звычайную шклянку?

15. Б'юць мяне зубамі, труць мяне каменнямі, паляць мяне агнём, рэжуць нажом: затое мяне губяць, што ўсе мяне любяць.

16. Колькі яец можна з'есці нашча?

*Адгадкі шукайце паміж наступных слоў: цвік, гадзіннік, кот, кара, чалавек у ботах, геаграфічная карта, у плешку, крапіва, падводная лодка, літара „і“, шоферамі былі жанчыны ні адна (іх трэба ўсыпаць), капуста, сонца і хмары, хлеб, жняярка.*

# МОЦНАЯ БУТЭЛЬКА



Вазьміце планку даўжынёю паўтара метра і навяжыце на яе кавалкі шпагату па 2 метры кожны. Шпагат прывязваецца адзін ад другога на адлегласці 10 сантыметраў. Такім чынам на планцы будзе 14—15 шпагацін.

Планку прыбіце да двух укопаных слупкоў на такой вышыні, каб ніжнія канцы шпагату амаль дакраналіся зямлі. На адлегласці 30—40 сантыметраў ад павешаных шпагацін пастаўце на зямлі бутэльку. Самі станьце з другога боку і, узяўшы палку ў рукі, паспрабуйце разбіць бутэльку праз шпагаціны. Задача гэта не такая лёгкая: шпагаціны абкручваюцца на палку і падымаюць яе ўгору.

# ЧЫТАЙЦЕ НОВЫЯ КНІЖКІ




Народны паэт БССР ЯКУБ КОЛАС напісаў для дзяцей цікавую кніжку аб летнім адпачынку і прыгодах хлопчыка Міхася. Кніжка называецца „МІХАСЁВЫ ПРЫГОДЫ“.

Нядаўна вышла з друку новая кніжка АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА „ПАДАРУНАК“. У кніжцы змешчана некалькі вясёлых вершаў і „Казка пра пана Жывоглота“.

Гэтыя кніжкі мы раім прачытаць усім рэбятам.





ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДСБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

МАЙ 1936 г. № 5

ЦАНА 30 кап.

# Леў і негрыцёнак

Рыс. Н. МАЛЕВІЧА







1. Галодны леў шукаў здабычы і раптам апынуўся перад негрыцёнкам, які зрываў з дрэва бананы.

2. Негрыцёнак не струсіў: аглушыўшы бананам льва, ён кінуўся наўцёкі.





3. Ну, цяпер не ўцячэш!—парашыў леў.

4. Але негрыцёнак хутка знаходзіць выхад...





5. Разгневаны леў налятае на сваю ахвяру і... хапае калючы кактус.

6. Калючы кактус ні праглынуць, ні выплюнуць нельга...

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА. Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 20.790 экз. Заказ № 552. Уп. Галоўлітбела № Б 1252.